# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Менск, Пляц волі,
— Дом працы —

ТЭЛЕФОНЫ:
Старшыні ЦП № 4-08
Арган. сэктар № 4-08

№ 12 — 15-га лютага 1932 г. — № 12



ЗЬМЕСТ.





# ПАСТАНОВА

**аб'яднанага пасяджэньня прэзыдыумаў Беларускага Рэспубліканскага і Заходня-абласнога камітэтаў саюзу РЖС „Аб выніках правядзеньня міжрэспубліканскага зьлёту рабочых-ударнікаў вядучых прафэсій сьвінаводчых саўгасаў БССР і Заходняй вобласьці“.**

*Ад 10-II-32 году.*

1) На міжрэспубліканскім зьлёце прысутнічалі дэлегаты 56 сьвінасаўгасаў БССР і 10 саўгасаў Заходняй вобласьці. Усяго зьявілася дэлегатаў на зьлёт 202 чал., з якіх 30 чал. Заходняй вобласьці. З агульнай колькасьці зьявіўшыхся было: рабочых-ударнікаў—53 чал. (з іх Заходняй вобласьці—9 чал.), старшынь рабочых камітэтаў — 54 чал. (Заходняй вобласьці—10 чал.), дырэктараў саўгасаў і спэцыялістаў—55 чал. (Заходняй вобласьці—10 чал.), старшынь вытворчых нарад—29 чал. (Заходняй вобласьці—1 чалавек).

2) Адзначыць, што зьлёт прайшоў надзвычай дзелавіта і актыўна з вялікім палітычным і гаспадарчым уздымам (у спрэчках выказалася каля 100 чал.). Увага ўсіх ўдзельнікаў зьлёту, на аснове бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, на аснове абмену вопытам работы і паказу лепшых узораў і бязьлітаснага бічаваньня недахопаў, была зусім правільна сканцэнтравана на вызначэньні практычных мерапрыемстваў па поўным забесьпячэньні выкананьня прамфінплянаў, правільным доглядзе і захаваньні маладняка, падвядзеньні кармавой базы ў саўгасах, здачы таварнай прадукцыі, барацьбе з буржуазнымі тэндэнцыямі ў саўгасах, укараненьні правільнай арганізацыі працы, разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва і яго вышэйшых форм у саўгасах.

3) Асабліва адзначыць вялікую зацікаўленасьць і ўздым, праяўлены ўдзельнікамі зьлёту навакол заключэньня сацы-

ялістычнага дагавору ўдарнікаў саўгасаў БССР з ударнікамі Заходняй вобласьці на лепшае выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну на 1932 год. Ня з меншым уздымам зьлёт прыняў адозву і выклік на сацспаборніцтва рабочых-камсамольцаў сьвінасаўгасаў „Райцы“ (БССР).

4) Прызнаць, што, ня гледзячы на вялікую актыўнасьць спэцыялістаў і навуковых работнікаў, на зьлёце ўсё-ж імі невыстарчальна быў перадены вопыт работы па дапасаваньні зоавэтмінімуму, дагляду за маладняком і яго захаваньні, а таксама па пасьпяховай барацьбе з рознага роду захворваньнямі сьвіннога стада і асабліва маладняка, што патрабуе ад усіх спэцыялістаў і навукова-дасьледчых інстытутаў рашучага пералому ў гэтай галіне.

5) Зьлёт яшчэ раз нагля́дна пацьвердзіў, што большая частка адміністрацыйна-гаспадарчага пэрсаналу і рабачкомаў саўгасаў ня прымаюць выстарчальнага ўдзелу як у наладжваньні правільнай арганізацыі працы (зьдзельшчына, тэхнармаваньне, рацыяналізацыя, падрыхтоўка кадраў, выкананьне рабочых рацыяналізатарскіх прапаноў), так і разгортваньні вышэйшых форм сацспаборніцтва і ўдарніцтва (гаспадарча-разрахунковыя брыгады, зьменна-сустрэчнае плянаваньне, сустрэчны прамфінплян). У сувязі з чым арганізацыя працы ў саўгасах і зьдзельшчына пастаўлена нездавальняюча, а гаспадарча-разрахунковыя брыгады, зьменна-сустрэчнае плянаваньне толькі ў пачатковай стадыі іх арганізацыі, пры чым яшчэ і да гэтага часу трыкутнікі саўгасаў не ўсьвядомі сабе важнасьці гаспадарча-разрахунковых брыгад і практычных задач іх работы.

6) Лічыць абсалютна даказаным, што праца вытворчых нарад у саўгасах не перабудована ў адпаведнасьці з дырэктывамі Ўсе ЦСПС і ЦК саюзу і патрабуе безадкладнага карэннага пералому ў гэтых адносінах.

Аб'яднанае пасяджэньне прэзыдыумаў Беларускага і Заходня-абласнога камітэтаў саюзу пастанаўляе:

а) Зацьвердзіць усе пастановы зьлёту і сацыялістычны

дагавор, заключаны на зьлёце паміж ударнікамі сьвінасаўгасаў БССР і Заходняй вобласьці. Прапанаваць ўсім рабочым камітэтам сьвінагадоўчых саўгасаў безадкладна давесьці рашэньні зьлёту да кожнага рабочага і спэцыяліста і мабілізаваць усю саўгаскую грамадзкасьць і, у першую чаргу, ударнікаў вядучых прафэсій на хутчэйшае правядзеньне ў жыцьцё пастаноў зьлёту, мэтадамі разгорнутага сацспаборніцтва саўгасаў з саўгасамі, цэхаў з цэхамі, брыгад з брыгадамі і ўнутры-брыгаднага ўдарніцтва.

б) Устанавіць пераходны сьцяг імя Беларускага Рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС для сьвінасаўгасаў БССР, якія з посьпехам выканалі прамфінплян 1932 г. і сьцяг імя Заходня-абласнога камітэту для саўгасаў Заходняй вобласьці. Пераходны сьцяг саюзу ўручаецца не пазьней 15-га красавіка 1932 г. аднаму з лепшых саўгасаў за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну за першы квартал. Гэты сьцяг можа быць адабраны ў наступных кварталах другім саўгасам, які дасьць яшчэ лепшыя паказальнікі ў выкананьні прамфінпляну. Даручыць культмасавым сэктарам саюзу ў 10-ці дзённы тэрмін распрацаваць праграмы і ўмовы конкурсу на атрыманьне пераходнага сьцягу.

в) Даручыць адпаведным сэктарам камітэтаў у дэкадны тэрмін устанавіць узаемны сьпіс сьвінасаўгасаў БССР і Заходняй вобласьці, якія (саўгасы) будуць спаборнічаць на лепшае выкананьне сацыялістычнага дагавору, заключанага ўдарнікамі на зьлёце, а таксама арганізаваць пасылку брыгад для дапамогі рабочым камітэтам і праверкі выкананьня сацдагавору, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на вывучэньне лепшых вопытаў работы і прымяненьне іх па ўсіх саўгасах БССР і Зах. вобласьці.

г) Абавязаць ЦБ ІТС Беларускага і Заходня-абласнога камітэтаў у 5-цідзенны тэрмін даць практычнае ўказаньне ўсім мясцовым бюро спэцыялістаў аб больш актыўным іх ўдзеле ў разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі і асабліва па кіраўніцтве тэхнічнымі гурткамі саўгасаў (аўла-

даньне тэхнікай), правядзеньні зоавэтмінімуму, догляду і захаваньні маладняка.

д) Прапанаваць усім рабачкомам саўгасаў безадкладна разгарнуць работу па перабудове і наладжваньні работы вытворчых нарад, а плянава-вытворчым сэктарам Беларускага і Заходня-абласнога камітэту правесьці масавае выбарчае абсьледваньне гэтага важнейшага вучастку работы і вынікі абсьледваньня паставіць на адным з бліжэйшых пасяджэньняў прэзыдыуму камітэту.

е) Давесьці да ведама прэзыдыуму ЦК саюзу аб недапушчальных адносінах дырэкцыі сьвінаводаб'яднаньня (Масква), якая не забясьпечыла яўку свайго адказнага прадстаўніка на склікаемым зьлёце ўдарнікаў сьвінасаўгасаў.

ж) Даручыць аргінстурктарскім сэктарам Беларускага Заходня-абласнога камітэту тэрмінова ўстанавіць прычыны няяўкі асобных саўгасаў на міжрэспубліканскі зьлёт ударнікаў і далажыць сваім прэзыдыумам для накладаньня саюзнага спагнаньня на вінаватых старшынь рабачкомаў дырэктараў саўгасаў.

---

Зацьверджана прэзыдыумам Рэсп.
к-ту саюзу РЖС, 10-II-32 г.

## ПАСТАНОВА

### 1-га міжрэспубліканскага зьлёту рабочых-ўдарнікаў сьвінагадоўчых саўгасаў БССР і Заходняй вобласьці па дакладу члена прэзыдыуму ЦК саюзу РЖС тав. Шэлемецьцева „Аб выніках абсьледваньня саўгасаў сьвінаводтрэсту камісіяй ЦКК і НК РСІ СССР“

*Ад 7—10-га лютага 1932 г.*

Заслухаўшы даклад тав. Шэлемецьцева аб выніках праверкі жывёлагадоўчых саўгасаў па выкананьні імі дырэктыў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 30-га ліпеня 1931 г. аб

разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі і выкананьні 6-ці умоў тав. Сталіна, міжрэспубліканскі зьлёт сьвінагадоўчых саўгасаў канстатуе, што ня гледзячы на шпаркі рост жывёлагадоўчых саўгасаў і значнае павялічэньне іх таварнасьці, ні гаспадарчыя, ні прафсаюзныя арганізацыі жывёлагадоўчых саўгасаў яшчэ не перабудавалі сваей работы і слаба забясьпечваецца правядзеньне на справе ў жыцьцё дырэктыў ЦК УсеКП(б) ад 17 студзеня 1931 г. і ад 30-га ліпеня 1931 г., што характарызуецца наступным:

1) Вялізарнай безгаспадарчасьцю, адсутнасьцю вучоту і справаздачнасьці і надзвычай слабай мабілізацыяй ўнутраных рэсурсаў.

2) Зьмяншэньнем плянаў здачы таварнай прадукцыі і іх невыкананьне. Разбазарваньне таварнай прадукцыі саўгасаў на спажывецкія патрэбы і абменныя апэрацыі пры поўным адсутнічаньні грамадзкага сыстэматычнага кантролю і нагляду за захаваньнем, правільным выкарыстаньнем і за своечасовай і поўнай здачай таварнай прадукцыі дзяржаве.

Рвацкія настроі з боку асобных груп рабочых і праяўленьне апартуністычнай практыкі радам работнікаў саўгасаў не сустракае з боку гаспадарнікаў і саюзных органаў рашучага выкрыцьця і бязьлітаснай барацьбы.

3) У аплаце працы—ураўнілаўка, зьдзельшчына не праводзіцца, а падменьваецца фармальным пераводам на зьдзельшчыну, пры якой рабочы атрымоўвае тарыфную стаўку.

4) Нядбайным і кепскім доглядам за жывёлай, пры наяўнасьці абязьлічкі, у сувязі з чым мае месца высокі процант захворваньняў і падзяжа жывёлы, асабліва маладняка.

5) Цякучасьцю рабочай сілы і адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу, пры наяўнасьці яшчэ ў радзе саўгасаў павялічаных штатаў рабочых і засьмечваньне іх клясава-чужым элемэнтам.

6) Нізкі ўзровень масавай работы ў саўгасах і слабая работа па мабілізацыі рабочых мас і ІТР на ажыцьцяў-

леньне важнейшых гаспадарча - палітычных задач, якія стаяць перад жывёлагадоўчымі саўгасамі.

Сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, дапасаваньне новых форм сацыялістычнай працы (гаспадарча-разрахўнковыя брыгады, сустрэчнае плянаваньне і г. д.) разгорнута надзвычай слаба.

Выходзячы з гэтага зьлёт пастанаўляе:

1) Малейшае праяўленьне буржуазных тэндэнцый з боку саўгасаў, рвацкія настроі, апартуністычная бязьдзейнасьць і безгаспадарчасьць, запамятаньне аб культурна-бытавых патрэбах рабочых і спэцыялістаў, павінны рашуча выкрывацца перад шырокімі масамі рабочых і павінны быць безадкладна зьнішчаны ў барацьбе за бальшавіцкае правядзеньне ўказаньняў партыі і ўраду, даных у адозьве ад 30-га ліпеня 1931 г. аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі, на аснове поўнага правядзеньня ў жыцьцё 6-ці ўмоў тав. Сталіна.

2) Абавязаць рабачкомы і ўдарнікаў саўгасаў безадкладна арганізаваць сталы і сыстэматычны грамадзкі рабочы кантроль (сыгнальныя пасты, брыгады, праверкі рэйды і г. д.) над валавым выхадам таварнай прадукцыі і своечасовым выкананьнем пляну здачы таварнай прадукцыі дзяржаве, прыцягваючы да суровай крымінальнай адказнасьці вінаватых за разбазарваньне, раскрадваньне і асяданьне таварнай прадукцыі ў саўгасах.

Абавязаць дырэкцыю і рабачкомы саўгасаў не пазьней 1-га сакавіка 1932 году давесьці да кожнага вучастку, цэху, брыгады вытворчай групы плян здачы таварнай прадукцыі з паказаньнем каляндарных тэрмінаў і з вылучэньнем адказных асоб за яго выкананьне.

Разгарнуць масавую работу сярод рабочых, цэхаў і брыгад навакол выкананьня і перавыкананьня плянаў здачы таварнай прадукцыі дзяржаве.

3) Абавязаць дырэкцыю, рабачкомы і ўдарнікаў саўгасаў пераключыць усю работу вытворчых нарад на вуча-

стках, у цэхах, брыгадах, вытворчых групах саўгасаў на рашучае паляпшэньне якасьці па доглядзе за жывёлай, захаваньне і гадоўлю маладняка,—поўную ліквідацыю абязьлічкі ў доглядзе за жывёлай, шляхам прымацаваньня жывёлы ня толькі да паасобных брыгад, але і ўнутры брыгады да паасобных рабочых.

4) Абавязаць дырэкцыю, рабачкомы і ўдарнікаў саўгасаў не пазьней 1-га сакавіка 1932 г. забясьпечыць поўнае правядзеньне на справе і на ўсіх работах у саўгасах зьдзельшчыны, зьвярнуўшы асноўную ўвагу на аплату ня толькі за колькасныя, але і за якасныя паказальнікі, увеўшы ў штат саўгасаў спэцыяльныя пасады тэхнічных нарміроўшчыкаў.

Для забесьпячэньня лепшага вучоту і кантролю за правядзеньнем зьдзельшчыны вылучыць ва ўсіх цэхах і брыгадах адказных асоб, абавязаўшы іх правядзеньнем перад рабочымі штодзеннай гласнай справаздачнасьці аб выніках работы за дзень.

5) У мэтах перанясеньня вопыту лепшых ўзораў сацыялістычнай арганізацыі працы з прамысловых прадпрыемстваў у жывёлагадоўчыя саўгасы, даручыць Рэспубліканскаму і Заходня-абласному камітэтам саюзу і трэсту распрацаваць формы і парадак перадачы вопыту (шэфства, пасылка брыгад і г. д.), практыкуючы скліканьне аб'яднаных нарад па абмену вопытам.

6) Абавязаць Рэспубліканскі і Заходня-абласны камітэты саюзу і трэсты для абмену лепшым вопытам па захаваньні, выхаваньні маладняка і павышэньні якасьці догляду практыкаваць скліканьне куставых (5—10 саўгасаў) вытворчых нарад з прыцягненьнем да іх лепшых сіл спэцыялістаў і гаспадарнікаў.

7) У мэтах далейшага паляпшэньня забесьпячэньня і харчаваньня рабочых, абавязаць усе арганізацыі саюзу сумесна з каапэрацыяй і дырэкцыяй саўгасаў у месячны тэрмін распрацаваць канкрэтны апэрацыйны плян, забясь-

печваючы разгортваньне сеткі падсобных каапэрацыйных гаспадарак у саўгасах (гароды, малочныя фэрмы, адкормачныя пункты) на аснове шырокай каапэрацыйнай самадзейнасьці рабочых саўгасаў з прыцягненьнем іх сродкаў і сродкаў гаспадарчых органаў саўгасаў.

8) Гаспадарчы разрахунак, які зьяўляецца асновай гаспадарчай дзейнасьці саўгасаў, у значнай меры затрымліваецца правядзеньнем, дзякуючы адсутнасьці дакладных паказаньняў аб гаспадарчым разрахунку асобных адзінак ў саўгасе, у сувязі з чым абавязаць дырэкцыі трэстаў не пазьней 1-га сакавіка г. г. распрацаваць і даць на месцы неабходныя палажэньні.

9) Ухваляючы рашэньне прэзыдыуму ЦК саюзу аб арганізацыі вытворчай сэкцыі сьвінароў, міжрэспубліканскі зьлёт сьвінароў абавязваецца забясьпечыць свой удзел у рабоце сэкцыі.

10) Надыходзячая трэцяя бальшавіцкая сяўба для сьвінагадоўчых саўгасаў павінна ў асноўным падвесьці трывалую кармавую базу на 1932-33 г.

Зьлёт, адзначаючы важнейшае значэньне сяўбы, абавязвае рабочых сьвінагадоўчых цэхаў арганізаваць дапамогу мэханічнаму і паляводчаму цэхам як у правядзеньні падрыхтоўчых (рамонт, хаваньне, ачыстка, завоз насеньня, вываз угнаеньняў і г. д.) работ, так і самой сяўбы.

*Толькі мабілізацыя ўсёй саўгаскай грамадзкасьці на выкананьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна зьяўляецца вернай зарукай выкананьня і перавыкананьня вытворчых плянаў сьвінагадоўчых саўгасаў.*

---

Зацьверджана прэзыдыумам Рэсп. К-ту саюзу РЖС 10-II-32 г.

# ПАСТАНОВА

## І-га міжрэспубліканскага зьлёту рабочых-ударнікаў вядучых прафэсій сьвінасаўгасаў БССР і Заходняй вобласьці па дакладу Сьвінаводтрэсту „Аб падрыхтоўцы да сяўбы і ўздыме ураджайнасьці“

*Ад 7—10-га лютага 1932 г.*

„Стварэньне ўстойлівай кармовай базы зьяўляецца рашаючай умовай пасьпяховага разьвіцьця жывёлагадоўчых саўгасаў“ (з адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб разьвіцьці жывёлагадоўлі). „Веснавая сельска-гаспадарчая кампанія ў 1932 г. набывае вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні праграмы 4-га, заключнага году пяцігодкі“ (з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР па веснавой с.-г. кампаніі). „Паставіць на 1932 г. перад сьвінагадоўчымі саўгасамі і калгасамі ў якасьці асноўнай задачы стварэньне ўстойлівай кармовай базы для сьвінагадоўлі, у прыватнасьці арганізацыю штучных паш“ (з пастановы СНК СССР ад 29-І па пытаньні разьвіцьця сьвінагадоулі).

1. Гэтыя дырэктывы партыі і ўраду патрабуюць ад трэсту сьвінагадоўчых саўгасаў, ад усіх ударнікаў, усіх рабочых, усяго адміністрацыйнага пэрсаналу і ІТР у 3-ю бальшавіцкую веснавую сяўбу і ва ўсёй с.-г. кампаніі забесьпячэньня перамогі на фронце стварэньня ўласнай устойлівай, добраякаснай, таннай кармовай базы, якая будзе зьяўляцца аднэй з рашаючых умоў максымальнай вытворчасьці добраякаснага і таннага мяса. У прыватнасьці неабходна, як мінімальную праграму забясьпечыць:

а) Павялічэньне плошчы яравых пасеваў па сьвінасаўгасах БССР з 31.000 га ў 1931 г. да 70.000 га ў 1932 г.

б) Максымальную вытворчасьць таварных культур для здачы дзяржаве па ўсіх с.-г. галінах.

в) 100 проц. забесьпячэньне грубымі кармамі да ліпеня м-ца 1933 г. з патрэбнымі рэзэрвамі на рост стада.

г) 100 проц. забесьпячэньне да гэтага-ж тэрміну ў максымальных нормах сакавітымі кармамі і выпасамі на ўвесь веснавы, летні, асеньні тэрмін 1932 г.

д) Вытворчасьць у 1932 г. у разьмерах поўнай патрэбнасьці для засеву ўсёй плошчы ў 1933 г. насеннага матар'ялу па ўсіх культурах.

е) Стварэньне ўласнай кармовай базы па зернавых канцэнтрах у разьмеры ня менш 30 проц. патрэбнасьці і поўнага забесьпячэньня спажывецкімі культурамі патрэб рабочых саўгасаў па гародніне.

2) Прызнаючы нездавальняючай працу саўгасау у 1931 г. па стварэньні кармавой базы, зьлёт адзначае наступныя недахопы як мінулага году, так і падрыхтоўчай работы да вясны 1932 г.

а) Злачынна нізкі ўраджай у саўгасах па большасьці культур зьяўляецца прамым вынікам яўнага ігнараваньня правільнай арганізацыі тэрыторыі і ўвядзеньня правільных севазваротаў, нізкай агратэхнікі, невыкарыстаньня штучных угнаеньняў, гною, вапны, дрэннай апрацоўкі глебы позьніх засеваў, наяўнасьці ў большай меры нядбайнага догляду і ўборкі яравога з буйнейшымі стратамі (саўгасы „Сталіна" „Вялень-Сінча" і інш.).

б) Не завезены сродкі вытворчасьці (машыны, насеньне, угнаеньне, кармы і інш.), не разгорнуты арганізаваны набор рабочай сілы, яўна нездавальняюча ідзе падрыхтоўка сродкаў вытворчасьці ў саміх саўгасах (з 130 трактараў, патрабуючых рамонту—адрамантавана 46), не мабілізаваны ўсе сродкі (гной, торф, вапна і мінэральныя ўгнаеньні—попел і інш.) для барацьбы за ўраджай, няма яшчэ распрацаванай сыстэмы пляну паходу за высокую ўраджайнасьць і ў значнай колькасьці саўгасаў пануе абязьлічка ў цэху кормаздабываньня, не ажыцьцёўлены 6 умоў т. Сталіна.

Яшчэ яўная невыстарчальнасць мабілізаванасьці мас на падрыхтоўку, адсутнічаньне барацьбы за высокі ўраджай, што ставіць у якасьці самай цэнтральнай задачы па стварэньні кармовай базы рашучую барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне саўгасаў, выкарчоўваньне злачыннай безгаспадарчасьці—ліквідацыю страт, на павышэньне ураджайнасьці саўгаскіх палёў, ліквідаваўшы малейшую недаацэнку поляводчай галіны. Забясьпечыць з боку саўгасаў, МТС, як прадпрыемстваў пасьлядоўна сацыялістычнага тыпу ў зямляробстве пры правядзеньні веснавой с.-г. кампаніі кіруючы пачатак ва ўсёй працы па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ўздыме яе вытворчасьці.

У адпаведнасьці з гэтымі дырэктывамі партыі і ўраду, зьлёт ударнікаў катэгарычна патрабуе правядзеньня:

### I. У галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня саўгасаў.

Асноўнай задачай ў гэтай галіне павінна зьявіцца выкананьне наступнай дырэктывы, данай ЦК КП(б) і СНК „забясьпечыць у саўгасах, МТС, перавод усіх работ на прагрэсыўна-прэміяльную зьдзельшчыну, ліквідацыю ураўнілаўкі ў аплаце працы, правесьці арганізаваны і своечасовы набор рабочай сілы, а таксама заключэньне дагавароў паміж саўгасамі і калгасамі аб узаемнай дапамозе ў пэрыяд самых напружаных палявых работ, поўную ліквідацыю абязьлічкі, скарыстаньне с.-г. машын і цягавай сілы, правільную расстаноўку рабочай сілы ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі“, што патрабуе:

а) Каб Сьвінаводтрэст не пазьней 20-II-32 г. давёў да саўгасаў узгодненую з саюзам сыстэму зьдзельна-прагрэсыўнай аплаты ў кармовых цэхах як па ўсіх падрыхтоўчых работах, так і непасрэдна ў палявых с.-г. работах, забясьпечыўшы жывым інструктажам укараненьне гэтай задачы.

б) У саўгасах не пазьней I-III павінны быць навербаваны праз заключэньне дагавароў з калгасьнікамі і калгасамі патрэбныя кадры рабочых для правядзеньня сельска-гаспадарчых работ. Ліквідаваць поўнасьцю абязьлічку ў выкарыстаньні цягі і ўсіх складаных с.-г. машын.

в) Абавязаць саўгасныя сэкцыі спэцыялістаў безадкладна ўключыцца ў рэальную працу па складаньні вытворча-фінансавага пляну, арганізуючы дапамогу па пытаньні агратэхнікі ў барацьбе за ўраджай, рамонту машын, арганізацыі працы—укараненьня зьдзельшчыны і інш.

г) Перавесьці на зьдзельна-прагрэсыўную аплату працы ўсіх рабочых кармовага цэху на ўсіх працах не пазьней 20 лютага.

д) Правядзеньнем жорсткай барацьбы за ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, павышэньнем росту вытворчасьці і якасьці працы, разгортваючы шырокую рацыяналізатарскую працу з уцягненьнем самых шырокіх мас на барацьбу за рост прадукцыйнасьці палявой гаспадаркі, укараніць гаспадарчы разрахунак; пераводам усіх кармовых цэхаў на гаспадарчы разрахунак забясьпечыць жорсткі кантроль рублём; бязьлітаснай барацьбой не дапусьціць у якой бы там ня было форме праяўленьня буржуазных тэндэнцый у саўгасах.

е) Аўладаць і ўкараніць перадавую агратэхніку, разгарнуць падрыхтоўку кадраў, ахапіць поўнасьцю тэхнічнай вучобай ўсіх рабочых, арганізаваць ва ўсіх саўгасах гурткі па аўладаньні тэхнікай с.-г. вытворчасьці.

1. Зьлёт абавязвае кожны рабочы камітэт арганізаваць пры рабачкоме пасеўныя штабы з ударнікаў з маршрутамі:

а) Па рамонце трактараў і с.-г. машын.

б) Па рабочым скату і збруі.

в) Па забесьпячэньні і захаваньні насенных матар'ялаў.

г) Па ўкараненьні агратэхнікі і барацьбы за ўраджай.

д) Па культурна-бытавым абслугоўваньні для ажыцьцяўленьня штодзеннага рабочага кантролю за ходам падрыхтоўкі.

2. 1932 год павінен даць новы рашаючы ўздым у тэхнічнай рэканструкцыі кормаздабываньня; у выкананьне гэтай задачы зьлёт патрабуе ад Сьвінаводу і забясьпечваючых арганізацый своечасовага завозу ўсіх сродкаў вытворчасьці не пазьней 1-III, асноўных с.-г. машын, насеньня, угнаеньня, кармоў і інш., а ад саўгасаў: своечасовага выняцьця са станцый чыгунак усіх грузаў і максымальна поўнага выкарыстаньня конскай і мэханічнай цягі ўсіх складаных с.-г. машын, мабілізуючы на службу сацыялістычнай сьвінагадоўлі ў барацьбе за высокі ўраджай поўнасьцю ўсе ўнутраныя рэсурсы як завозімае мінэральнае ўгнаеньне і інш., так і маючыяся ў саўгасах, улічыўшы пастанову ЦК і СНК, папярэджваючых„ што ў 1932 г. пасеўныя плошчы калгасаў саўгасаў, а таксама адпаасобнікаў павінны быць забясьпечаны насеньнем цалкам з уласных рэсурсаў".

Гэта паказвае, што недахоп насеньня можа быць пакрыты толькі выкананьнем і перавыкананьнем загатоўчых насенных плянаў, якія да гэтай пары ганебна правальваюцца. Таму ўдарнікі саўгасаў павінны ня толькі захоўваць усе насенныя рэсурсы саўгасаў, але і рэальна выступіць на штурм плянаў загатовак у раёнах.

Зьлёт ударнікаў ад імя ўсіх рабочых калектываў запэўнівае, што безадкладна пасьля зьлёту будуць забясьпечаны сапраўды бальшавіцкія тэмпы ў падрыхтоўцы да 3-й бальшавіцкай сяўбы па ўсіх галінах, як падрыхтоўка і захаваньне насенных фондаў, рамонт ударнымі тэмпамі трактараў і с.-г. машын, збор угнаеньняў, падрыхтоўка ўсіх сродкаў вытворчасьці, аўладаньне агратэхнікай, якія будуць гарантаваць перавыкананьне прынятай ўраджайнасьці па кожным саўгасе і сярэднюю рэспубліканскую ўраджайнасьць, устаноўленую НКЗ БССР, па бульбе 190 цэнт., аўсе 13 цэн., віцы 40 цэнт.

а) На працягу 1932 г. арганізаваць у адпаведнасьці з патрабаваньнямі сьвінагадоўлі, своечасовыя правільныя севазвароты ва ўсіх старых і новых саўгасах, для чаго трэс-

ту і НДІ не пазьней 15-II даць дэталёвыя кіруючыя матар'ялы саўгасам.

б) Выкарыстаць да 1 кілёграма вясной 1932 г. поўнасьцю завозімае штучнае ўгнаеньне, маючыся гной, выканаўшы плян па вапнаваньні, тарфаваньні, зборы і выкарыстаньні попелу і інш., мабілізуючы ўсе ўнутраныя рэсурсы на барацьбу за ўраджай, прыняўшы безадкладна штучнае ўгнаеньне, якое маецца на станцыях чыгунак.

в) Уключыцца ў рэйд праверкі гатоўнасьці да сяўбы які праводзіцца ЦКК РСІ, з мэтай самай дасканалай праверкі падрыхтаванасьці да сяўбы; зьлёт прапануе арганізаваць ня менш 2-3 абглядавых рэйдаў па праверцы гатоўнасьці да сяўбы і праводзіць пробныя выезды.

Зьлёт ударнікаў асуджае апартуністычную практыку саўгасаў Крычаў, Чэрыкаў, Замошша, Жалезьнякі і інш., якія цэнтральную задачу пасеўнай, барацьбу за высокую ураджайнасьць, выращылі пусьціць на самацёк, запраектаваўшы недапушчальна нізкую ураджайнасьць.

г) Безадкладна зьвярнуць асаблівую увагу на падрыхтоўку і асваеньне новых зямель, выканаўшы мінімальную праграму па інтэнсыўнай мэліярацыі ў БССР на плошчы 3000 га, дасьледваньні на 9.050 га і прасьцейшыя культурна-тэхнічныя паляпшэньні: па раскарчоўцы 3.560 га, рэальна ажыцьцявіць меры ўздыму ураджайнасьці сенажацяй ня менш як на 25-30 проц. праз забарону веснавой пашы, ўгнаеньне, вапнаваньне, ачыстку ад наносаў.

Трэцяя бальшавіцкая сяўба патрабуе бальшавіцкага ажыцьцяўленьня 6 умоў т. Сталіна з боку ўсіх арганізацый саўгасаў, мабілізацыі актыўнасьці рабочых мас, далейшага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва на выкананьне і перавыкананьне плянаў веснавой кампаніі як колькасна, так і якасна і асабліва па якасных паказальніках.

---

Зацьверджана прэзыдыумам Рэсп. к-ту саюзу РЖС ад 10-II-32 г.

# ПАСТАНОВА

## 1-га міжрэспубліканскага зьлёту рабочых-ударнікаў вядучых прафэсій сьвінасаўгасаў БССР і Заходняй вобласьці „Аб становішчы і арганізацыі працы і далейшыя задачы па укараненьні зьдзельшчыны і гасразрахунковых брыгад у сьвінасаўгасах“

*Ад 7—10-га лютага 1932 году.*

Пытаньне арганізацыі працы як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы зьяўляецца важнейшым і рашаючым у справе рэканструкцыі усёй народнай гаспадаркі.

„Саўгасы ў галіне прымяненьня зьдзельшчыны павінны зьяўляцца такім-жа прыкладам для калгасаў, якімі яны зьяўляюцца у галіне арганізацыі вытворчасьці і прымяненьня новых машын“ (з пастановы ЦК УсеКП(б).

„Без сыстэматычнага росту прадукцыйнасьці працы мы ня зможам разьвязаць задач рэканструкцыі народнае гаспадаркі, ня зможам ня толькі дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, але нават адстаяць сваё самастойнае існаваньне“ (з пастановы XVI партзьезду).

Правільная арганізацыя працы ў саўгасах, правільная расстаноўка і арганізаваны набор рабочай сілы, барацьба з самацёкам рабочай сілы,ураўнілаўкай, абязьлічкай, перавод на прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы, сапраўднае ажыцьцяўленьне 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна, забясьпечаць посьпехі выкананьня задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад сьвінасаўгасамі ў 4-м, заключным годзе пяцігодкі.

Ва ўсёй рабоце барацьба за якасныя паказальнікі прамфінпляну павінна стаць цэнтральнай і баявой задачай усіх партыйных, прафсаюзных і гаспадарчых арганізацый саўгасаў. Навакол поўнага захаваньня маладняка, зьніжэньня са-

бекошту прадукцыі, выкананьня злучна-апароснай кампаніі і здачы таварнай прадукцыі павінна быць сканцэнтравана ўся ўвага саўгаснай грамадзкасьці. Ва ўсіх гэтых задачах арганізацыя працы набывае найвялікшую значнасьць.

У галіне арганізацыі працы за апошні год ёсьць некаторы зрух, але агульнае становішча арганізацыі працы на сёнешні дзень зьлёт прызнае яшчэ далёка нездавальняючым. Вядучая галіна—сьвінагадоўля яшчэ поўнасьцю не пераведзена на зьдзельна-прагрэсыўную сыстэму аплаты працы, не ліквідавана абязьлічка па доглядзе за жывёлай і дробнабуржуазная ўраўнілаўка, не арганізаваны ўлік эфэктыўнасьці зьдзельных работ, слаба разгортваецца работа па арганізацыі гаспадарча-разрахунковых брыгад і пераводу вытворчых цэхаў на гасразрахунак, усё яшчэ назіраецца вялікая цякучасьць рабочай сілы і, у прыватнасьці, вядучых прафэсій, пры адсутнічаньні арганізаванага набору рабочай сілы. У большасьці саўгасаў зьдзельшчына ўведзена фармальна, у выніку чаго злачынная безгаспадарчасьць і высокі адыход парасят і сьвіней, высокі сабекошт прадукцыі і невыкананьне прамфінпляну 3-га рашаючага году. Усё гэта гаворыць аб апартуністычнай недаацэнцы пытаньняў арганізацыі працы і якасьці работы, як цэнтральнай задачы ў разьвіцьці сьвінагадоўчых саўгасаў і выкананьні прамфінплянаў.

Тыя саўгасы, якія забясьпечылі 100 проц. укараненьне зьдзельшчыны ў асноўных галінах, правільна арганізавалі працу, перавялі цэхі на гасразрахунак, сапраўды арганізавалі гасразрахунковыя брыгады і па-бальшавіцку выконваюць 6 умоў т. Сталіна, дабіліся ў сваёй практычнай дзейнасьці значных посьпехаў, як павышэньня прадукцыйнасьці працы на 40—60 проц. („Лемніца“, „Лудчыцы“, „Пачаевічы“, „Сталіна“), павялічэньня зарплаты рабочых да 20—25 проц., захаваньня маладняка на 90—95 проц.

Прызнаючы работу саўгасаў па арганізацыі працы і ўкараненьні зьдзельшчыны ва ўсіх галінах работ зусім незда-

вальняючай, міжрэспубліканскі зьлёт ударнікаў-рабочых вядучых прафэсій сьвінагадоўчых саўгасаў Заходняй вобласьці і БССР пастанаўляе:

Рашуча ажыцьцяўляючы 6 гістарычных умоў т. Сталіна, ўдзельнікі зьлёту абвяшчаюць сябе мабілізаванымі на лепшую арганізацыю працы ў саўгасах і бяруць на сябе наступныя абавязацельствы:

1) Уласным узорным прыкладам мабілізаваць усіх рабочых і спэцыялістаў саўгасаў на максымальна высокую прадукцыйнасьць працы, шляхам шырокага разгортваньня сацспаборніцтва як паміж саўгасамі, так і асабліва ўнутры саўгасаў: ударніка з ударнікам, брыгады з брыгадай, цэху з цэхам, вучастку з вучасткам, адначасова бязьлітасна змагаючыся з гультаямі, прагульшчыкамі, рвачамі, усімі парушэньнямі працоўнай дысцыпліны, нераспарадчасьцю і самацёкам з боку кіраўніцтва саўгасаў.

2) На працягу лютага месяца канчаткова ліквідаваць губіцельную абязьлічку, у першую чаргу ў сьвінагадоўчых цэхах і асабліва ў цэхах па доглядзе за маладняком. Быць ініцыятарам і актыўна дапамагчы трыкутнікам саўгасаў правільна па ўсіх вучастках і галінах расставіць рабочую сілу і асабліва сілу вядучых прафэсій. Праз дагавары з калгасамі арганізаваць набор рабочых у адпаведнасьці з прамфінплянам, не дапусьціць цякучасьці, рашуча змагацца з лішкам рабочай сілы, выявіць кулацкі элемэнт, які пралез у саўгасы, і вычысьціць яго.

3) У бліжэйшы час прыняць усе неабходныя захады да пераводу саўгасаў на сапраўдную зьдзельшчыну і ўвядзеньне правільнай прагрэсыўна-прэміяльнай аплаты працы як за колькасныя, так і асабліва за якасныя паказальнікі, не допушчаючы ўраўнілаўкі і рашуча яе ліквідуючы.

4) Не пазьней, як да 20 лютага, на аснове зацьверджаных саўгасных прамфінплянаў на 1932 г. канкрэтна распрацаваць квартальныя, месячныя і дэкадныя пляны для кожнага вучастку, цэху, брыгады, сьвінарніка, давёўшы іх да

кожнага рабочага з тым, каб ня было ні аднаго вытворчага зьвяна, ні аднаго рабочага без сустрэчных прамфінплянаў.

5) На аснове пастаноў УсеЦСПС і паказаньняў ЦК рэспубліканскіх (абласных) к-таў саюзу РЖС перабудаваць работу вытворых нарад саўгасаў, ператварыўшы іх у штабы па арганізацыі працы, шляхам перанясеньня цэнтру іх работы ў цэхі, вучасткі і брыгады ня толькі сьвінагадоўчых галін, але і дапаможных цэхаў. Дабіцца такога становішча, каб ніводная прынятая рабочая і рацыяналізатарская прапанова не заставалася-б ня выкананай, усямерна папулярызуючы аўтараў прапаноў, прэміюючы іх і дасканала вывучаючы гаспадарчы эфэкт выконваемых прапаноў.

6) Зьлёт канстатуе, што перавод на гасразрахунак цэхаў (вучасткаў) і паасобных галін саўгасаў укараняецца вельмі марудна, таму ставіць сабе адказнай задачай у бліжэйшы час правільна арганізаваць хуткае правядзеньне гэтай работы ў жыцьцё.

7) Рашаючае значэньне ў справе правільнай арганізацыі працы на даным этапе набываюць вышэйшыя формы сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як гасразрахунковыя брыгады і зьменна-сустрэчнае плянаваньне, аб чым яскрава на практыцы пацьвердзіў вопыт перадавых саўгасаў („Лемніца“, „Сталіна“, „Вішнёўка“). У правільна-арганізаванай гасразрахунковай сацыялістычнай брыгадзе найбольш пасьпяхова ажыцьцяўляюцца 6 умоў т. Сталіна па ліквідацыі абязьлічкі, ураўнілаўкі, цякучасьці, павышаецца прадукцыйнасьць працы, якасьць прадукцыі, рост заработнай платы і г. д. Аднак гэтыя формы работы ў саўгасах укараняюцца зусім марудна. Многія дырэктары і нават трыкутнікі саўгасаў палітычна недаацэньваюць гасразрахунковых брыгад, праяўляюць кансэрватызм, „брыгадабоязьнь“, матывуючы складанасьцю ўліку работы і адсутнасьцю кадраў вучотчыкаў. У паасобных саўгасаў гасразрахунковыя брыгады падменьваюцца цэхавым гасразрахункам. Ёсьць выпадкі адміністраваньня ў арганізацыі сацыялістычных гасразрахунковых брыгад. На-

ват назіраюцца і такія зьявішчы, калі лічыцца, што гасразрахунковыя брыгады нельга арганізаваць да таго часу, пакуль ня будзе ўведзен дзяржаўны гасразрахунак ва ўсіх галінах гаспадаркі. Усё гэта гаворыць аб тым, што гасразрахунковыя брыгады і зьменна-сустрэчнае плянаваньне ў саўгасах знаходзіцца толькі ў пачатковай стадыі і недаацэньваецца, як адзін з галоўных вагароў пасьпяховай барацьбы за пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне колькасных і якасных паказальнікаў прамфінплянаў. Таму зьлёт ударнікаў, ухваляючы канкрэтна распрацаваныя практычныя мерапрыемствы (бюлетэнь № 9) Беларускага Рэспубліканскага К-ту ў гэтым напрамку, рашуча падкрэсьлівае, што ўся грамадзкасьць саўгасаў у бліжэйшы час павінна быць мабілізавана на сьмелае, рашучае і масавае ўкараненьне гасразрахунковых брыгад і зьменна-сустрэчнага плянаваньня ў кожны саўгас, вучастак, цэх, ударную брыгаду, у кожны сьвінарнік, скотны двор, трактарную калёну, дапаможныя прадпрыемствы, палявыя сэзонныя работы (пасеў, пахата, баранаваньне, касьба, уборка). Задача рабочых, і ў першую чаргу ўдарнікаў вядучых галін—100 проц. удзел у гасразрахунковых сацыялістычных брыгадах, задача ІТР—тэхнічна ўзначаліць гэты рух, задача трыкутнікаў саўгасаў —па-бальшавіцку, канкрэтна, прадметна кіраваць і дапамагаць у рабоце кожнай гасразрахунковай брыгадзе.

8) Зьлёт патрабуе ад трэстаў і Рэспубліканскага (абласнога) к-таў саюзу РЖС наступнага:

а) Наладзіць больш дакладнае плянаваньне саўгасамі, лепшае апэрацыйнае кіраўніцтва і практычную дапамогу ў рабоце трыкутнікаў.

б) У бліжэйшы час удасканаліць інструкцыю аб зьдзельшчыне па сьвінасаўгасах. Пераглядзець існуючыя формы ўліку зьдзельшчыны, спрасьціўшы іх, і не пазьней 1-III-32 г. давесьці да кожнага саўгасу.

в) У большых саўгасах увесьці пасаду нам. дырэктараў па працы, згодна палажэньня НКЗ СССР, арганізаваць бюро

па эканоміцы і рацыяналізацыі працы, распрацаваўшы для іх палажэньне. Падрыхтаваць неабходную колькасьць хронамэтражыстаў, нармоўшчыкаў і вучотчыкаў.

г) У 2-х дэкадны тэрмін распрацаваць прыкладнае палажэньне аб зьдзельшчыне ў дапаможных цэхах сьвінасаўгасаў (паляводзтва, будаўніцтва, трактарныя калёны, майстэрні і г. д.).

д) Унесьці большую яскравасьць у палажэньне па пераводзе на гасразрахунак—вучасткаў і цэхаў (галіннае, або тэрытарыяльнае), ператварыўшы вучасткі ў сапраўдныя поўнапраўныя гаспадарчыя адзінкі.

е) Хутчэй распрацаваць асноўныя прынцыпы, формы і парадак мэханізацыі сьвінасаўгасаў, а трыкутнікам саўгасаў разгарнуць шырокую работу па ўвядзеньні прасьцейшай, мэханізацыі ў сьвінцэхах (прыгатаваньне, падача кармоў падвесныя дарогі і г. д).

ж) Навукова-дасьледчаму Сьвінагадоўчаму Інстытуту ў бліжэйшы час, сумесна з трэстамі і саюзам, выдаць папулярны даведнік сьвінара.

з) Перавесьці ўсіх спэцыялістаў саўгасаў на акладна-прэміяльную сыстэму аплаты іх працы ў залежнасьці да колькаснага і якаснага выкананьня прамфінпляну, распрацаваўшы па гэтым пытаньні адпаведнае палажэньне.

і) У дэкадны тэрмін разаслаць саўгасам адпаведныя праграмы і мэтадычнае паказаньне для тэхнічных гурткоў. Рэалізаваць на 100 проц. пазыку „Тэхніка масам“, выпушчаную Бел. к-там. Рабачкомам разгарнуць масавую работу па поўным ахопе тэхвучобай рабочых і асабліва вядучых прафэсій.

к) Патрабаваць ад Навукова-дасьледчых інстытутаў большай увагі да пытаньняў правільнай арганізацыі працы ў саўгасах і ў бліжэйшы час выдаць сэрыю папулярных брашур.

л) Даць яшчэ раз рашучае паказаньне дырэктарам саўгасаў аб сваячасовым выкананьні рабочых і рацыяналізатар-

скіх прапаноў і поўнасьцю наладзіць штодзенны ўлік работы па арганізацыі працы і эфэктыўнасьці ад гасразрахунковых брыгад і іншых форм сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Зьлёт падкрэсьлівае, што толькі на аснове бальшавіцкага ажыцьцяўленьня 6 умоў т. Сталіна, правільнай арганізацыі працы, поўнай ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, высокай прадукцыйнасьці працы, правільнай расстаноўкі сіл, толькі на аснове правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, праводзячы бязьлітасную барацьбу з апартуністамі ўсіх відаў, толькі разгортваньнем сацспаборніцтва, ударніцтва і яго вышэйшых форм—будуць пасьпяхова выкананы і перавыкананы прамфінпляны саўгасаў на 1932 г. і гэтым самым значна палепшаны сацыяльна-бытавыя ўмовы рабочых і ІТР саўгасаў.

---

## ПАСТАНОВА

### 1-га міжрэспубліканскага зьлёту рабочых-ударнікаў вядучых прафэсій сьвінасаўгасаў БССР і Заходняй вобласьці па дакладу Сьвінаводтрэсту „Аб папярэдніх выніках зімоўкі стада і далейшых задачах па захаваньні маладняка“.

*Ад 7—10-га лютага* 1932 *году*.

Заслухаўшы даклад Сьвінаводтрэсту аб папярэдніх выніках зімоўкі стада і далейшых задачах па захаваньні маладняка, міжрэспубліканскі зьлёт ударнікаў сьвінаводчых саўгасаў адзначае:

У выніку работы за 1931 г. саўгасы Сьвінаводу маюць цэлы рад дасягненьняў у справе выкананьня пастаўленых партыяй і ўрадам задач па разьвіцьці сацыялістычнай сьвінагадоўлі.

Сабрана матачнае стада па БССР 32.000 галоў, па Заходняй вобласьці—9.639 галоў.

Пабудавана 118.000 сьвінамесц па саўгасах БССР і 15.293 месц па Заходняй вобласьці.

Створаны ўсе прадпасылкі для стварэньня магутнай кармавой базы.

Сабраны асноўныя сродкі вытворчасьці саўгасаў. Заложаны моцны фундамант для далейшага больш шпаркага росту сацыялістычнай сьвінагадоўлі.

Аднак гэтыя посьпехі зьяўляюцца толькі пачаткам работы па вырашэньні мясной праблемы.

Побач з дасягнутымі посьпехамі саўгасы Сьвінаводу маюць цэлы рад буйнейшых прарываў у разьвіцьці сьвінагадоўлі, якія ставяць пад пагрозу выкананьне прамфінпляну за 1932 г.

Плян злучной кампаніі на 4 квартал па саўгасах БССР выканан толькі на 86 проц., па саўгасах Заходняй вобласьці на 00 проц.

Адыход маладняка за 1931 г. па саўгасах БССР дасягае 47 проц., па саўгасах Заходняй вобласьці—46 проц.

Плян здачы таварнай прадукцыі за 1931 г. выканан толькі на 73 проц. у галовах і на 40 проц. у жывой вазе, па Заходняй вобласьці—94 проц. у галовах і 00 у жывой вазе.

Пачатак 1932 году па асноўных рашаючых зьвеньнях работы, як здача таварнай прадукцыі, правядзеньне злучной кампаніі, захаваньне маладняка яшчэ ня даў належнага пералому ў працы саўгасаў. Выкананьне прамфінпляну па асноўных паказальніках за студзень месяц ствapae прамую пагрозу зрыву заданьня партыі і ўраду на 1932 г.

Плян здачы таварнай прадукцыі за студзень 1932 г. па саўгасах БССР выканан на 64,3 проц., па Заходняй вобласьці—на 00 проц.

Плян злучной кампаніі за студзень месяц па саўгасах Сьвінаводу БССР выканан на 80 проц., па Заходняй вобласьці—на 74 проц.

Адыход парасят толькі за 1 месяц па саўгасах Сьвіна-

воду БССР дасягнуў 18,1 проц., па Заходняй вобласьці —25 проц.

Такое становішча зьяўляецца вынікам злачыннага самацёку ў правядзеньні асноўных вытворчых мерапрыемстваў, слабага правядзеньня ў жыцьцё 6-ці ўмоў тав. Сталіна. Усё яшчэ наглядаецца недаацэнка сьвінагадоўлі з боку раду трыкутнікаў саўгасаў. Адсутнасьць бальшавіцкай барацьбы за ўкараненьне зоатэхнічнай і вэтэрынарнай тэхнікі ў вытворчасьці. Слабая ініцыятыва з боку часткі спэцыялістаў, дрэнна пастаўлен вучот. Надзвычай невыстарчальная масавая работа навакол правядзеньня вытворчых мерапрыемстваў і выкананьня прамфінпляну.

Пастаўленыя партыяй задачы на 1932 г. здаць таварнай прадукцыі па саўгасах БССР 136.290 цэнтнэраў жывой вагі, па Заходняй вобласьці 38.969 цэнтнэраў, сфармаваць матачнае стада па саўгасах БССР—56.000 галоў і па Заходняй вобласьці 32.161 галоў, давесьці агульнае пагалоў'е да канца году па саўгасах БССР—265.000 галоў, па Заходняй вобласьці—87.000 галоў.

Задачы па фармаваньні стада і здачы таварнай прадукцыі за кошт гадоўлі ўласнага маладняка ўжо на базе маючагася матачнага стада патрабуюць ад ударнікаў і рабочых калектываў саўгасаў яшчэ больш напружанай работы, сапраўднай бальшавіцкай мабілізацыі мас на выкананьне прамфінпляну 1932 г. Поўнае выкананьне прамфінплянаў 1-га кварталу вырашае посьпех усяго 1932 году

Для забесьпячэньня выкананьня прамфінпляну па фарваньні стада і здачы (продажы) таварнай прадукцыі з максымальнымі якаснымі паказальнікамі, міжрэспубліканскі зьлёт ударнікаў сьвінагадоўчых саўгасаў пастанаўляе правесьці наступнае:

1) Зьлёт абавязваецца мабілізаваць усіх ударнікаў, рабочых і спэцыялістаў саўгасаў, забясьпечыць поўнае і сваячасовае выкананьне плянаў па здачы таварнай прадукцыі, праводзячы жорсткую барацьбу з дробна - буржуазнымі

кулацкімі тэндэнцыямі, разбазарваньнем тварнай прадукцыі, асяданьнем яе ўнутры саўгасаў і здачай апрача нарадаў. Зьлёт патрабуе ад Сьвінаводтрэсту і саюзу прыцягваць да самай суровай адказнасьці вінаватых у разбазарваньні таварнай прадукцыі.

2) Злучная і апаросная кампаніі зьяўляюцца такімі-ж ўдарнымі кампаніямі, як пасеўная і ўборачная (з пастаноў пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б). Паставіць правядзеньне злучной і апароснай кампаніі як цэнтральную задачу саўгасаў, забясьпечыць у кожным саўгасе атрыманьне ня менш 1,7 апаросу на кожную сьнавінаматку, маючуюся на 1-е студзеня 1932 г., і ня менш 1 апаросу на матку, паступаючую ў парадку гадоўлі свайго рамонту, для чаго:

а) Безадкладна давесьці плян злучной кампаніі да сьвінара, абавязаўшы яго арганізаваць пакрыцьцё прыпадаючай на яго долю колькасьці матак.

б) Вылучыць лепшых ударнікаў на правядзеньне злучной кампаніі, якія могуць забясьпечыць 100 проц. выкананьне памесячных плянаў з высокімі якаснымі паказальнікамі (зьніжэньне процанту ялавасьці, правільнае выкарыстаньне хракоў).

в) Абавязаць спэцыялістаў саўгасаў прапрацаваць на гуртках, вытворчых нарадах, усе тэхнічныя пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем злучной кампаніі, узброіўшы тэхнікай правядзеньня гэтага мерапрыемства кожнага сьвінара.

г) Забясьпечыць укараненьне мэтаду вольна-групавой злучкі ва ўсіх саўгасах (апрача племяных), сурова захоўваючы тэхнічныя правілы яе правядзеньня.

3) Мэтызацыяй адбору лепшага ядра матачнага стада, увядзеньнем зоатэхнічнага падбору забясьпечыць павышэньне прадукцыйнасьці матачнага стада саўгасаў ня менш як на 25 проц. да канца 1932 году па саўгасах БССР, па саўгасах Заходняй вобласьці—00 проц.

4) Узьняўшы на прынцыповую вышыню барацьбу за 100 проц. захаваньне маладняка, за жыцьцё кожнага пара-

сяці, зьлёт абавязваецца забясьпечыць выхад ад аднага вясновага апаросу ня менш 5,8 таварных падсьвінкаў у сярэднім і 5 таварных падсьвінкаў ад асеньня - зімовага апаросу, для чаго:

а) Мабілізаваць усе сілы саўгасаў на правядзеньне пільнай падрыхтоўкі да прыняцьця масавых апаросаў, забясьпечыць усіх падсосных матак і маладняк сьветлымі, сухімі, цёплымі памяшканьнямі, правёўшы даабсталяваньне і ўцяпленьне, асушку маючыхся памяшканьняў да 25 лютага 1932 г., вылучыўшы для гэтай работы спэцыяльныя брыгады, максымальна мабілізаваўшы ініцыятыву саміх сьвінароў.

5) Улічваючы, што асноўнай прычынай вялікага адыходу маладняка зьяўляецца дрэннае кармленьне, кепскі догляд за падсоснымі, апароснымі маткамі і маладняком, зьлёт патрабуе ад усіх дырэктараў і рабочых камітэтаў саўгасаў вылучыць па доглядзе за падсоснымі маткамі і маладняком лепшых ударнікаў саўгасаў:

а) Забясьпечыць правільнае кармленьне рознымі канцэнтраванымі, бялковымі, вітаміннымі і мінэральнымі кармамі падсосных матак і маладняк, забраніяваць з маючыхся кармоў у саўгасе лепшыя кармы за подсоснымі маткамі і маладняком.

б) Забясьпечыць штодзенныя прагулкі для ўсіх груп стада.

в) Палепшыць санітарнае становішча сьвінарнікаў і сядзіб саўгасаў, абвясьціўшы барацьбу за чыстату супроць бруду і нядбайнасьці.

г) Забясьпечыць актыўную прывіўку ўсім парасятам не пазьней 7 дзён пасьля нараджэньня ў саўгасах з актыўна прывітым стадам.

д) Забясьпечыць сваячасовую ізаляцыю хворай жывёлы і дэзынфэкцыю кармоў і кармушак.

6) Зьлёт патрабуе ад вэтэрынарных інстытутаў фарсаваным тэмпам распрацаваць новыя мэтады барацьбы з паратыфусам і белым паносам маладняка.

7) Зьлёт абавязвае ўсіх спэцыялістаў саўгасаў прапрацаваць на тэхнічных гуртках, вытворчых нарадах сьвінароў усе інструкцыі і рашэньні ўсесаюзнай нарады па захаваньні маладняка, давёўшы іх да кожнага сьвінара.

8) Правільным правядзеньнем усіх неабходных зоатэхнічных мерапрыемстваў зьлёт абавязваецца забясьпечыць такі прырост маладняка, каб ад падсьвінку 7—9 месяцаў мець ня менш 90 кгр. жывой вагі, для чаго:

а) Арганізаваць правільнае кармленьне маладняка на адкорм.

б) Давесьці плян штодзённага прыросту маладняка да кожнага сьвінара адкармачнага цэху, арганізаваўшы кантроль за яго выкананьнем.

в) Забясьпечыць дакладную пастаноўку вучоту эфэктыўнасьці адкорма, патрабаваўшы ад трэсту забесьпячэньня прыладамі для вагі сьвіней усіх саўгасаў.

9) Зьлёт патрабуе ад усіх дырэктараў, спэцыялістаў і ўдарнікаў саўгасаў безадкладна ва ўсіх саўгасах ліквідаваць поўнасьцю абязьлічку па доглядзе за сьвіньнямі, наяўнасьць якой зьяўляецца асноўнай прычынай адыходу маладняка, на справе ажыцьцявіць правядзеньне зьдзельна-прэміяльнай аплаты працы для ўсіх работнікаў жывёлагадоўчага цэху.

10) Зьлёт абавязваецца мабілізаваць усе рабочыя калектывы, ударнікаў, спэцыялістаў саўгасаў на барацьбу за зьніжэньне сабекошту прадукцыі, павышэньне яе якасьці для чаго:

а) У кожным саўгасе арганізаваць збор рабочых рацыяналізатарскіх прапаноў ня менш аднэй на кожнага рабочага.

б) Абавязаць дырэктараў саўгасаў безадкладна праводзіць у жыцьцё ўсе прапановы рабочых, накіраваныя на паляпшэньне вытворчасьці.

в) Увесьці сапраўдны гаспадарчы разрахунак ва ўсе цэхі саўгасу.

11) Зьлёт патрабуе ад Сьвінаводтрэсту прыняць усе меры да забесьпячэньня саўгасаў рознастайнымі канцэнтраванымі і мінэральнымі кармамі, забясьпечваючымі складаньне правільнага зоатэхнічнага рацыёну.

12) Зьлёт патрабуе ад ўсіх дырэктараў саўгасаў, ударнікаў і спэцыялістаў мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы для забесьпячэньня сьвінного стада падсьцілкай, патрабаваўшы ад раённых арганізацый рашучай дапамогі саўгасам у загатоўцы падсьцілкі. Улічваючы наяўнасьць фактаў злачыннага разбазарваньня корму, вялікіх страт пры хаваньні кармоў, зьлёт патрабуе ад усіх ударнікаў, дырэктараў і спэцыялістаў саўгасаў максымальна жорсткай барацьбы за эканомнае расходваньне кармоў. Канкрэтных віноўнікаў у разбазарваньні кармоў прыцягваць да самай суровай адказнасьці.

13) Зьлёт заклікае ўсіх ударнікаў, спэцыялістаў, дырэктараў саўгасаў мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы для забесьпячэньня стада грубымі кармамі:

а) У саўгасах з недахопам грубага корму загатовіць гальлёвы корм для забесьпячэньня поўнай патрэбы стада.

14) Забясьпечыць у надыходзячую веснавую пасеўкампанію пасьбішчам усе групы сьвіней, безадкладна распачаўшы падрыхтоўку да пераводу сьвіней на пасьбішчнае ўтрыманьне, для чаго:

а) Распрацаваць плян арганізацыі пасьбішчаў і пасеву пасьбішчных культур.

б) Загатовіць у поўнай патрэбе насеньне для пасеваў, пасьбішчны інвэнтар: самакармушкі, самапаілкі, загародкі і інш.

15) Зьлёт заклікае ўсіх ўдарнікаў, спэцыялістаў узмацніць барацьбу за ауладаньне тэхнікай і ўнядрэньне зоатэхнічнай вэтэрынарнай тэхнікі ў вытворчасьці саўгасаў. Зьлёт патрабуе ад кожнага ўдарніка ўдзелу ў адным з тэхнічных гурткоў, ад кожнага спэцыяліста — арганізацыі ня менш аднаго тэхнічнага гуртка па кожнай галіне ў саўгасе,

ахапіўшы імі ўсіх рабочых. Поўнасьцю рэалізаваць пазыку „Тэхніка ў масы“, выпушчаную Бел. Рэс. К-там саюзу.

16) Зьлёт патрабуе ад усіх навукова-дасьледчых установ рашуча перабудаваць сваю работу ў поўнай адпаведнасьці з вытворчасьцю, фарсаваўшы выпуск папулярных брашур па тэхнічных пытаньнях сьвінагадоўлі.

17) Улічваючы, што вучот зьяўляецца аднэй з важнейшых задач сацыялістычнага прадпрыемства, зьлёт абавязвае ўсіх дырэктароў, спэцыялістаў і рабочыя камітэты саўгасаў паставіць на належную вышыню зоатэхнічны і апэрацыйны вучот, вылучыўшы ў кожным цэху спэцыяльнага вучотчыка, правёўшы іх перакваліфікацыю.

18) Зьлёт заклікае ўсіх рабочых і спэцыялістаў саўгасаў рашуча ўзмацніць барацьбу за арганізацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, пераносячы вопыт арганізацыі сьвінаводзтва саўгасаў у калгасы, наладжіўшы жывую сувязь з вакольнымі калгасьнікамі.

19) Зьлёт патрабуе ад ўсіх прафсаюзных звеньняў і трыкутнікаў саугасаў рашучага паляпшэньня ў прафэсыянальна-масавай рабоце саўгасаў, асабліва работы з вядучымі прафэсыямі, паляпшэньня жыльлёва-бытавых умоў і асабліва рабочых вядучых прафэсый—сьвінароў.

20) Зьлёт абавязвае ўсе рабочыя камітэты саўгасаў рашуча ўкараніць новыя мэтады і формы прафэсыянальна-масавай работы, сацыялістычныя формы барацьбы за прамфінплян, гаспадарча - разрахунковыя брыгады, зьменна-сустрэчнае плянаваньне, штодзеннае асьвятленьне дасягненьняў і недахопаў ў працы па выкананьні прамфінпляну на чорных і чырвоных дошках, у брыгадах, у цэхах, вучастках саўгасаў, арганізацыю пераклічак, узаемаправеркі асобных брыгад.

21) Ад саюзу і трэстаў зьлёт патрабуе арганізацыі пэрыядычнай самаправеркі лепшымі саўгасамі горшых для абмену вопытам работы, вылучыць буксірныя брыгады па

3 чал. з колькасьці ўдарнікаў, пасылаючы іх на ліквідацыю прарываў у адстаючыя саўгасы.

Міжрэспубліканскі зьлёт ударнікаў сьвінагадоўчых саўгасаў БССР і Заходняй вобласьці запэўняе партыю і ўрад, што пад кіраўніцтвам партыі, на аснове поўнага ажыцьцяўленьня 6-ці ўмоў тав. Сталіна, мабілізуючы ўсіх рабочых і спэцыялістаў саўгасаў на бальшавіцкую барацьбу за прамфінплян, задачы, якія стаяць перад саўгасамі, будуць выкананы з гонарам.

---

## ДАГАВОР

### на сацыялістычнае спаборніцтва ўдарнікаў вядучых прафэсій сьвінагадоўчых саўгасаў БССР і Зах. воб. на лепшае выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў 1932 году

Пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі і яе баявога штабу—ЦК на чале з тав. Сталіным,—рабочая кляса Савецкага Саюзу дабілася вялізарнейшых посьпехаў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Уступаюць у строй усё новыя і новыя заводы, шахты, фабрыкі. Павялічваецца ўдзельная вага цяжкай прамысловасьці. Шпаркі тэмп індустрыялізацыі краіны Саветаў забясьпечыў посьпехі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі шляхам арганізацыі саўгасаў, калгасаў і МТС.

На базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца апошняя апора капіталізму на вёсцы—кулак. „Ліквідуюцца асновы і крыніцы эксплёатацыі чалавека чалавекам, расьце тэмпамі, якія недасягаемы для капіталістычных краін, народны прыбытак, зьнішчана беспрацоўе і жабрацтва (паўпэрызм), зьнішчаюцца „ножніцы цэн“ і процілегласьць паміж горадам і вёскай, расьце з году ў год добрабыт і культурны ўзровень рабочых і працоўных сялян, зьніжаецца сьмертнасьць і шпарка расьце народанасельніцтва СССР.

Усе гэтыя дасягненьні зьяўляюцца рэзультатам калёсальнага росту рэвалюцыйнай актыўнасьці саміх шырокіх мас рабочай клясы і працоўных сялян, рэзультатам вялізарнага ўздыму сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, нарэшце, рэзультатам ленінскай палітыкі нашай партыі, якая пасьлядоўна праводзіла разгорнутае па ўсім фронце наступленьне на капіталістычныя элемэнты“ (з рэзалюцыі XVII усесаюзнай партканфэрэнцыі па дакладах т. т. Молатава і Куйбышава).

Уступаючы ў чацьвёрты, завяршальны год пяцігодкі, партыя паставіла перад саўгасамі і калгасамі адну з самых вострых, з самых баявых задач—вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы, як цэнтральнай задачы сельскай гаспадаркі.

„1931 і 1932 г. г. павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 г. г. у справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі“ (са звароту ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Рашаючая роля ў барацьбе за шпаркае вырашэньне праблемы жывёлагадоўлі належыць сацыялістычнай сьвінагадоўлі.

У 1931 г. закладзен фундамант сацыялістычнай сьвінагадоўлі і дасягнуты першыя посьпехі. Па БССР арганізавана 83 саўгасы з агульным пагалоўем 68.630 сьвіней, здана дзяржаве першыя 19.000 таварных сьвіней, па Заходняй вобласьці—32 саўгасы з пагалоўем 25.780 сьвіней. Але ў параўнаньні з вялізарнымі задачамі, якія партыяй пастаўлены перад сьвінагадоўчымі саўгасамі, гэтыя посьпехі зьяўляюцца толькі пачаткам разгортваньня сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Камплектаваньне матачнага пагалоўя выканана па БССР на 79,5 і плян здачы таварнай прадукцыі ў галовах—на 73,1 проц. Па Заходняй вобласьці: камплектаваньне выканана на 91,8 проц. і плян здачы таварнай прадукцыі—94 проц.

Ня гледзячы на агульнае выкананьне праграмы будаўніцтва, у радзе саўгасаў сьвінное пагалоўе не забясьпечана поўнасьцю патрэбнымі памяшканьнямі для зімоўкі, якасьць будаўніцтва вельмі нізкая.

Да гэтага часу не ліквідавана поўнасьцю абязьлічка ў доглядзе за сьвіньнямі, ня ўведзена поўнасьцю зьдзельна-прагрэсыўная аплата працы. Трыкутнікі раду саўгасаў ня здолелі ажыцьцяўляць на справе 6 гістарычных умоў т. Сталіна, арганізаваць барацьбу з безгаспадарчасьцю, дапусьцілі буржуазна-капіталістычныя тэндэнцыі ў здачы таварнай прадукцыі, не змаглі арганізаваць правільны догляд і кармленьне. Рэзультатам усяго гэтага зьяўляюцца адыход парасят за 1931 г.: па БССР—39,6 проц. і Зах. вобласьці—46 проц., а за студзень месяц, па БССР—12,9 проц.

Таму барацьба за ажыцьцяўленьне на справе 6 умоў т. Сталіна, за ліквідацыю абязьлічкі і ўраўнілаўкі, увядзеньне зьдзельна-прэміяльна-прагрэсыўнай аплаты працы, выкананьне пляну камплектаваньня, злучной кампаніі, здачы таварнай прадукцыі дзяржаве, барацьба за захаваньне маладняка, далейшае аднаўленьне стада, стварэньне сваёй уласнай кармовай базы, рашучае паляпшэньне якасьці працы, укараненьне агра-зоатэхнікі ў практыку работы, барацьба за поўнае выкананьне праграмы сьвінагадоўлі,—зьяўляецца баявой задачай усіх рабочых саўгасаў „Сьвінаводу“.

Перад сьвінагадоўчымі саўгасамі на 1932 г. партыяй пастаўлена баявая задача—сфармаваць стада: па БССР—у 265 тысяч галоў, з іх 56.000 сьвінаматак, па Зах. вобласьці—87.000 галоў, з іх матак 30.000, і здаць дзяржаве: па БССР—13.629 тон, па Зах. вобласьці—3.890 тон. Гэта значыць атрымаць ня менш 1.75 апаросу на матку і даць ня менш 5,8 таварных сьвіней ад апаросу. Гэтае заданьне бясспрэчна рэальна і магчыма для выкананьня, аб чым яскрава сьведчыць вопыт раду саўгасаў, узорна выканаўшых свае прамфінпляны па фармаваньні стада, здачы таварнай пра-

дукцыі, правядзеньні асеньня-зімовай злучной кампаніі, вопыт лепшых ударнікаў-сьвінароў, якія сумелі даць высокія паказальнікі гадоўлі маладняка—8-10 штук ад аднаго апаросу ад аднэй маткі.

Мы, сьвінары-ударнікі, якія сабраліся на свой міжрэспубліканскій зьлёт ударнікаў БССР і Зах. вобласьці, ад імя ўсіх рабочых і агра-зоатэхнічнага пэрсаналу заключаем дагавор сацспаборніцтва, даем партыі і ўраду абяцаньне падвоіць, патроіць сваю актыўнасьць і энэргію ў барацьбе за паляпшэньне і разьвіцьцё саўгаснай сьвінагадоўлі і прымаем на сябе наступныя абавязацельствы для сапраўды бальшавіцкага выкананьня праграмы разьвіцьця сацыялістычнай сьвінагадоўлі ў 1932 годзе:

1. Рашуча ажыцьцяўляць у штодзеннай практыцы 6 гістарычных умоў тав. Сталіна, ліквідаваць да 1 сакавіка 1932 г. губіцельную абязьлічку і ўраўнілаўку, перавесьці сьвінагадоўлю на зьдзельна-прэміяльна-прагрэсыўную аплату працы.

2. Павысіць шляхам укараненьня перадавой зоатэхнікі і арганізацыі правільнага догляду прадукцыйнасьць сьвінагадоўлі па атрымліваемых апаросах да 25 проц. і здаць дзяржаве замест 5,8 ад апаросу—6 таварных сьвіней. Сфармаваць стада за 1932 г. па БССР—265.000 галоў, з іх 56.000 матак, і здаць дзяржаве 13.629 тон мяса ў жывой вазе; па Заходняй вобласьці—87.000 галоў, з іх матак 30.000, і здаць дзяржаве 3.890 тон мяса.

3. Сьвінары-ўдарнікі бяруць на сябе абавязак быць застрэльшчыкамі пераходу сьвінарнікаў на гаспадарчы разрахунак, даць дзяржаве ня толькі добрае, але і таннае мяса. Да 1-га красавіка 1932 г. арганізаваць усіх сьвінароў у гаспадарча-разрахунковыя сацыялістычныя брыгады.

4. Ударнікі зьлёту бяруць на сябе абавязак весьці самую рашучую барацьбу з кансэрватызмам у правядзеньні прагулак і мінэральнай падкормкі і абавязваюцца арганізаваць рацыён. Даць сьвежае паветра і мінэральную падкормку кожнай сьвіньні.

5. У дэкадны тэрмін праверыць становішча ўцяпленьня сьвінарнікаў, закончыўшы ўцяпленьне і прыстасаваньне іх да масавых апаросаў. Масавыя апаросы сустрэнем у поўнай гатоўнасьці. Поўнасьцю забясьпечым прыём апаросаў.

6. Поўнасьцю забясьпечыць выкананьне плянаў злучной кампаніі і 100 проц. супароснасьць матак, весьці дакладны ўлік пакрыцьця матак, устанавіць штодзенны кантроль злучкі, не дапушчаючы прагулаў вытворчых станкоў. Злучку праводзіць круглы год.

7. Устанавіць штодзенны кантроль за выдаткаваньнем кармоў, карміць сьвіней па ўстаноўленых нормах і рацыёнах. Утрымоўваць сьвіней чыстымі з поўным забесьпячэньнем, у асаблівасьці падсосных матак, сухой саломай. Паставіць на баявыя рэйкі падрыхтоўку саломы і сурагатаў, якія могуць замяніць падсьцілку.

8. Сваячасова правесьці падрыхтоўку да будаўніцтва (выкананьня плянаў будаўніцтва 1932 г.), вывезьці на пункты будаўніцтва ўсе будаўнічыя матар'ялы ў зімовы час да 15 сакавіка. На 100 проц, выканаць праграму будаўніцтва 1932 г. з поўным забесьпячэньнем сьвіннога пагалоўя сьвінамесцамі. Скончыць усё будаўніцтва да 1-га сьнежня. Максымальна выкарыстаць мясцовыя будаўнічыя матар'ялы, разгарнуўшы будаўніцтва гліна-хварасьцяных і гліна-саманых будынкаў. Рашуча дабіцца лепшай якасьці будаўніцтва зьніжэньня сабекошту будаўніцтва, арганізаваўшы над імі штодзенны рабочы кантроль.

9. Самім аўладаць тэхнікай догляду і гадоўлі і ўцягнуць у аўладаньне тэхнікай пагалоўна ўсіх сьвінароў.

10. Зьлёт ударнікаў бярэ ня сябе абавязак разам з усімі калектывымі рабочых стварыць унутры саўгасаў уласную моцную кармавую базу і забясьпечыць сьвіней на 100 проц. грубымі і сакавітымі кармамі і ня менш чым на 30 проц. канцэнтраванымі. Сваячасова, ва ўстаноўленыя ўрадам тэрміны, скончыць падрыхтоўку да веснавой пасеўкампаніі, сваячасова вытварыць сяўбу з ажыцьцяўленьнем

неабходных агранамічных мерапрыемстваў, дабіцца павышэньня ўраджайнасьці і атрымаць: па бульбе—ня менш 140 цэнтнэраў, аўсе—13 цэнтнэраў, віцы, сене і канюшыне—ня менш 40 цэнт. з га.

11. Шляхам арганізацыі максымальна лепшага догляду, кармленьня і поўнага ажыцьцяўленьня правіл зоатэхнікі атрымаць вагу у парасят: ад 2 месяцу—11 кгр., 6 м-цаў—60 кгр., 8 месяцаў—90 кгр. Выдаткоўваць на адзін кілёграм прыросту ня больш 5 кармовых адзінак у 2-х месячным ўзросьце.

12. Змагацца за паляпшэньне сацыяльна-бытавых умоў. На 100 проц. выканаць плян жыльлёвага будаўніцтва, прычым у першым паўгодзьдзі—40 проц. пляну. Поунасьцю абсталяваць і лепш утрымліваць сталоўкі. Арганізаваць грамадзкія агароды з разьліку поўнага забесьпячэньня па нормах гароднінай ўсіх рабочых. У кожным саўгасе арганізаваць закрыты разьмеркавальнік і ва ўсіх саўгасах, якія маюць 200 рабочых, рабкаапы. Дабівацца лепшага забесьпячэньня прамтаварамі і завозу іх у саўгасы транзітам з цэнтралізаваных баз. У кожным саўгасе пры сталоўках арганізаваць сьвінаадкормачныя пункты і мяса малочныя фэрмы, мабілізаваўшы для гэтай мэты ўнутраныя -сродкі, шляхам унясеньня кожным рабочым авансу ў 20-25 руб. і атрыманьня сродкаў ад саўгасаў і каапэрацыйных арганізацый.

13. Мы, ударнікі зьлёту, бярэм на сябе абавязак на падставе гэтага сацдагавору шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва саўгасаў БССР з саўгасамі Зах. вобласьці, а таксама сацспаборніцтва саўгасу з саўгасам унутры БССР і Зах. вобласьці, вучастку з вучасткам, цэху з цэхам, ударніка з ударнікам, арганізаваўшы суцэльныя ўдарныя цэхі.

Для праверкі ўзятых на сябе абавязацельстваў па выкананьні гэтага дагавору на сацспаборніцтва абіраем сваімі арбітрамі рэдакцыі газэт: „Социалистическое Земледелие“, „Сельгасрабочы Беларусі“ і „Рабочий Путь“ Зах. вобласьці.

Для праверкі выкананьня ўзятых на сябе абавязацельстваў просім рэспубліканскі камітэт саюзу БССР і абласны камітэт саюзу Заходняй вобласьці склікаць у чэрвені 1932 г., пасьля вясеньняга апаросу, зьлёт спаборнічаючых саўгасаў.

Ударнікі зьлёту саўгасаў „Сьвінаводу“ заклікаюць усіх сьвінароў на бальшавіцкую непрымірымую барацьбу за разьвіцьцё саўгаснай сацыялістычнай сьвінагадоўлі, за таннае мяса пралетарскім цэнтрам, за поўнае выкананьне сваіх абавязкаў перад дзяржавай і поўнае ажыцьцяўленьне 6 гістарычных умоў т. Сталіна.

Па даручэньні зьлёту падпісалі ўдарнікі саўгасаў БССР —саўгасаў „Сталіна,“ „Вызваленьне,“ „Вішнёўка,“ „Халопенічы,“ „Вусьце,“ „Івань,“ „Беларусь,“ „Васільеўск,“ „Крупкі,“ „Веснава,“ „Харамцы,“ „Самацэвічы,“ „Бачэйкава,“ „Пачаевічы,“ Віцебскага вэткамбінату і дырэкцыя Сьвінаводтрэсту.

Зах. вобл.—саўгасаў „Кокіна“, „Шамілава“, імя Калініна, Молькава, „Усходы“, імя Крупскай, „Шокіна“ і дырэкцыя Сьвінаводтрэсту Зах. вобласьці.

## НЯ МЕНШ 15 ТАВАРНЫХ СЬВІНЕЙ У ГОД АД КОЖНАЙ СЬВІНАМАТКІ

## ПРЫМАЙЦЕ ВЫКЛІК КАМСАМОЛЬЦАЎ-УДАРНІКАЎ САЎГАСУ „РАЙЦЫ“

### Да ўсіх камсамольскіх ячэек, рабочай моладзі і сьвінароў сьвінагадоўчых саўгасаў БССР і Зах. вобласьці

Рашаючая роля ў барацьбе за вырашэньне мясной праблемы належыць сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Узмоцнена разгортваючы гэту галіну жывёлагадоўлі, мы зможам у найкарацейшы тэрмін ліквідаваць нашы труднасьці, даць краіне таварнае мяса. Вось чаму ўсямернае разьвіцьцё саўгаснай і калгаснай сьвінагадоўлі зьяўляецца першапачатковай задачай саўгасаў і калгасаў нашай краіны.

Перад саўгасамі БССР і Зах. вобласьці партыяй пастаўлена адказьнейшая задача—даць у 1932 г. 218.000 таварных сьвіней. **Гэта зьяўляецца бязумоўна рэальным і можа быць выканана.**

Наш саўгас „Райцы“ (Талочынскі раён) на працягу 1931 г. меў значныя страты. Адыход пагалоўя дасягаў ад 12 да 60 проц. **Галоўнымі прычынамі страт былі цякучасьць рабочай сілы, абязьлічка і ўраўнілаўка, якія паказалі ў нашай гаспадарцы адсутнасьць адказнасьці за даручаную справу.**

Так працягвалася да сьнежня 1931 г., пакуль камсамольская ячэйка саўгасу, пад кіраўніцтвам парткалектыву і пры дапамозе трыкутніка, не павяла рашучай барацьбы з усімі непаладкамі ў вытворчасьці, асабліва ў сьвінагадоўлі.

**Камсамольцы—брыгада за брыгадай, цэх за цэхам—павялі наступленьне на абязьлічку і ўраўнілаўку, па-баявому разгарнулі барацьбу за ліквідацыю цякучасьці рабочай сілы ў сьвінарніках, за ўнядрэньне зоавэтмінімуму.**

У цэху супаросных матак камсамольскія брыгады **абвяшчаюць вайну бруду і антысанітарыі.** Варштаты ачышчаюцца па два разы ў дзень. Наладжваецца правільны догляд і кармленьне матак, рэгулярны выпуск іх на прагулку.

У цэху маладняка камсамольцы **вядуць барацьбу за павялічэньне вагі кожнага парасяці** і за кароткі пэрыяд дабіваюцца пэўных вынікаў. У сярэднім за месяц маладняк прыбывае ў вазе на 11 кгр.

**Па ініцыятыве камсамольскай ячэйкі племяны саўгас „Райцы" ператвараецца ў камсамольскі сьвінагадоўчы завод.** Усе камсамольцы абвяшчаюць сябе ўдарнікамі і прымацоўваюцца да сьвіназаводу на 2 гады.

Ва ўсіх цэхах і брыгадах **канчаткова ліквідуецца абязьлічка.** Кожны камсамолец прымацоўваецца да паасобнага станка, да паасобнай сьвіньні, за якую ён нясе адказнасьць. **Уся работа пераводзіцца на зьдзельна-прагрэсыўна-прэміяльную аплату працы.** Пачынаецца ўпартая барацьба за колькасныя і якасныя паказальнікі. **У цэхах сурова захоўваецца зоавэтмінімум.** Сьвіньні штодзенна выганяюцца на прагулку, на сьвежае паветра.

Камсамольскія брыгады бяруць на грамадзкі буксір будаўніцтва сьвінарнікаў. У выніку 9 сьвінарнікаў заканчваюцца да наступленьня марозаў. **Усе сьвінарнікі ацеплены і падрыхтаваны да зімовых апаросаў.**

Сьвіназавод уступае на шлях **укараненьня гаспадарчага разьліку.** У цэху арганізуецца 7 **сацыялістычных гаспадарча-разрахунковых брыгад, якія дабіваюцца павялічэньня прадукцыйнасьці працы у сярэднім на 30 проц. Зарплата сьвінара павялічваецца ў сярэднім з 45 да 72 руб.**

Усе гэтыя мерапрыемствы хутка даюць адпаведныя вынікі—адыход сьвіней у саўгасе зьмяншаецца рэзка, за апошнія два месяцы (сьнежань-студзень) складае ўсяго 0,8 проц. Плян злучной кампаніі выкананы на 98 проц.

Побач з ударнай работай на вытворчасьці **камсамольцы вядуць барацьбу за аўладаньне марксыцка-ленінскімі і**

**тэхнічнымі ведамі.** Толькі нядаўна закончыліся курсы па тэхніцы сьвівагадоўлі, якія рэгулярна наведвалі 22 камсамольцы. Зараз арганізаваны 6-цімесячныя курсы па вывучэньні марксызму і ленінізму.

Уключыўшыся ў конкурс „Правды" на лепшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, **камсамольскія брыгады сьвіназаводу дапамаглі тром падшэфным калгасам правільна наладзіць калгасную вытворчасьць і выканаць свае абавязкі перад дзяржавай.**

У саўгасе паляпшаецца і грамадзкае харчаваньне. **Сталовая становіцца** адным з важнейшых цэхаў сьвіназаводу.

Так будуецца і мацнее першы ў СССР камсамольскі сьвіназавод.

У чацьвертым, заключным годзе пяцігодкі наш сьвіназавод паводле прамфінпляну павінен даць краіне 300 племяных кныроў, атрымаць ад апаросу 2.633 парасят, захаваць па 6 парасят ад кожнай сьвінаматкі і давесьці стада пасьля здачы прадукцыі да 1.268 галоў.

Мы, камсамольцы сьвіназаводу племгасу „Райцы", пасьля дэталёвага абгаварэньня прамфінпляну на нашых вытворчых нарадах, брыгадах і цэхах, на аснове 6 гістарычных умоў т. Сталіна, **высоўваем свой сустрэчны плян** барацьбы за разьвіцьцё сацыялістычнай сьвінагадоўлі ў чацьвертым, заключным годзе пяцігодкі.

**Шляхам паляпшэньня догляду, узьняцьця кваліфікацыі сьвінара, поўнага ўжываньня заатэхнічных і вэтэрынарных правіл, мы абавязваемся выгадаваць на працягу году ня менш 15 парасят** ад кожнай сьвінаматкі, атрымаць за год 1070 маладых кныроў і матак, звыш вызначанага нам перадаць дзяржаве 460 племяных кныроў, з якіх 50 проц. элітных замест 300, вызначаных па пляне, вагой ва ўзросьце 2-х месяцаў ня менш 25 кгр. і 9 м-цаў ня менш 125 кгр.

Выкананьне гэтых абавязацельстваў можа быць забясьпечана пры ўмове **самага рашучага адпору буржуазна-рвацкім тэндэнцыям, жорсткай барацьбы з усімі апарту-**

**ністычнымі элемэнтамі, на аснове рэалізацыі 6 гістарычных умоў т. Сталіна.**

**Мы абвяшчаем сябе ўдарнікамі імя XIV зьезду КП(б)Б і XVII Усесаюзнай партканфэрэнцыі і выклікаем на сацспаборніцтва па выкананьні гэтых паказальнікаў усе камсамольскія ячэйкі, рабочую моладзь і сьвінароў сьвінагадоўчых саўгасаў БССР і Зах. вобласьці.**

Камсамольцы-ўдарнікі сьвіназаводу саўгасу „Райцы" заклікаюць на бальшавіцкую барацьбу за разгортваньне саўгаснай сьвінагадоўлі, за тое, каб 1932 г.—апошні год пяцігодкі—ператварыць у год работы па-новаму сьвінагадоўчых саўгасаў і выкананьне імі сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Для праверкі выкананьня ўзятых на сябе абавязацельстваў мы прапануем склікаць у кастрычніку 1932 г. другі міжрэспубліканскі зьлёт ударнікаў сьвінагадоўчых саўгасаў.

Арбітрам міжрэспубліканскага спаборніцтва мы прапануем выбраць газэты: „Зьвязда", „Рабочий Путь", „Сельскохозяйственный Рабочий" і „Сельгасрабочы Беларусі".

**Па даручэньні камсамольскага сьвіназаводу племгасу „Райцы".**

Камсамольская брыгада: Калнін, Сідараў, Бірукова, Дунай, Аўчынка, Марозаў, Спаткай, Калніна, Жук.

---

# СЬПІС

## лепшых ударнікаў-барацьбітоў за сацыялістычную сьвінагадоўлю, прэміяваных міжрэспубліканскім зьлётам рабочых-ударнікаў вядучых прафэсый сьвінасаўгасаў БССР і Зах. вобласьці

1. БЕРАСТОВІЧ Н. (саўгас „Сталіна")—старшая сьвінарка, ударніца з 1931 г., прэміявалася І раз. Унесла 2 рацыяналізатарскія прапановы, якія прыняты. Удзельнічае ў тэхгуртку, працуе ў гаспадарча-разрахунковай брыгадзе, перавыконвае вызначаныя нормы. Прэміюецца ў 150 руб.

2. ЖДАНАВА А. (саўгас „Вусьце")—ударніца, пераведзена на зьдзельна-прагрэсыўную аплату, унесла 8 рацыяналізатарскіх прапаноў, з іх 5 прынята. Працуе ў гаспадарча-разрахунковай брыгадзе, удзельнічае ў тэхгуртку. Прэміюецца ў 150 руб.

3. АНЦЫПЕРОВІЧ (саўгас „Беларусь")—ударніца-сьвінарка. Вытворчы стаж 17 год. Унесла 15 рацыяналізатарскіх прапаноў, якія ўсе прыняты, прэміявана 5 раз, удзельнічае ў тэхгуртку. Прэміюецца ў 150 руб.

4. ФЕДАРЭНЧЫК (саўгас „Блонь")—сьвінар, вытворчы стаж 13 год, 6 раз прэміяваўся, унёс тры рацыяналізатарскія прапановы, якія прыняты, удзельнічае ў тэхгуртку. Прэміюецца ў 150 руб.

5. ЦІХАМІРАЎ (саўгас „Лудчыцы")—зоатэхнік, унёс 4 рацыяналізатарскія прапановы, мае 2 аблігацыі „Тэхніка масам", па якіх прачытаў 10 гадзін. Ударнік з 1931 г., кіруе тэхгуртком. Прэміюецца ў 200 руб.

6. ЛЯЛЬКО (саўгас„ Сялецк-Гаўрылаўка")—вэтурач, вытворчы стаж 12 год, ударнік з 1931 г., прэміяваны два разы, мае 2 аблігацыі „Тэхніка масам", па іх прачытаў 8 гадзін і ў гуртку 20 гадзін. Прэміюецца ў 200 руб.

7. ЛЫСЕНКА—дырэктар саўгасу „Жалезьнякі“, вылучэнец. Прэміюецца ў 200 руб.

8. ЛЯЎКОВІЧ—старшыня рабачкому саўгасу „Лудчыцы“, прэміюецца за добрыя вытворчыя паказальнікі, за арганізацыю грамадзкага харчаваньня і пастаноўку прафработы ў суме 200 руб.

9. СУХАВЕРАЎ—старшыня рабачкому саўгасу „Лемніца“. За адпаведныя вытворчыя паказальнікі, зь арганізаваны набор рабочай сілы (заключаны дагавор з калгасам), за добрую пастаноўку грамадзкага харчаваньня, за падрыхтоўку кадраў да веснавой сяўбы, за перабудову прафработы прэміюецца ў 200 руб.

10. САЎЧАНКА (саўгас „Вішнёўка“)—сьвінарка, ударніца, прэміюецца ў 150 руб.

11. ШЫРЫН П. (саўгас „Бранчыцы“)—ударніца з 1931 г., сьвінарка, унесла адну рацыяналізатарскую прапанову, удзельнічае ў тэхгуртку, мае добрыя вытворчыя паказальнікі. Прэміюецца домам адпачынку на паўднёвы бераг Крыму.

12. ЗАЯЦ (саўгас „Бачэйказа“)—сьвінар, ударнік з 1931 г. Прэміяваны адзін раз, працуе на прагрэсыўна-зьдзельнай аплаце, удзельнічае ў тэхгуртку. Прэміюецца курортам.

13. ФІНКЕВІЧ (саўгас „Кухцічы“)—старшыня вытворчай нарады, старшы рабочы, вылучэнец, унёс чатыры рацыяналізатарскія прапановы, усе яны прыняты, удзельнічае ў тэхгуртку, перабудаваў работу вытворчых нарад. Прэміюецца домам адпачынку на паўднёвы бераг Крыму.

14. КАЛНІНА (саўгас „Райцы“)—старшыня вытворчай нарады, сьвінарка, унесла 2 рацыяналізатарскія прапановы, якія прыняты, перабудавала працу вытворчых нарад. Прэміюецца курортам.

15. ФАБРЫСТАВА (саўгас „Івань“)—зоатэхнік, вытворчы стаж 5 год, унесла 2 рацыяналізатарскія прапановы,

абедзьве прыняты, удзельнічае ў тэхгуртку, мае 2 абліга-цыі „Тэхніка масам", па якіх прачытала 20 гадзін. Прэміюецца домам адпачынку на паўднёвы бераг Крыму.

16. СІДАРАЎ (саўгас „Луцэўшчына")—тэхнік-сьвінавод, ударнік з 1931 г., унёс 2 рацыяналізатарскія прапановы, абедзьве прыняты, кіруе тэхгурткамі і г. д. Прэміюецца домам адпачынку на паўднёвы бераг Крыму.

17. КРОТАЎ—нам. дырэктара саўгасу „Самацэвіцы", вылучэнец, член КП(б)Б, вытворчы стаж з 1914 г., ударнік з 1930 г., прэміяваны адзін раз, унёс адну рацыяналізатарскую прапанову. Прэміюецца домам адпачынку на паўднёвы бераг Крыму.

18. ФЕДАСЕНКА—старшыня рабачкому саўгасу „Сялецк-Гаўрылаўка", член ЛКСМ, вытворчы стаж 3 гады, два разы прэміяваны, мае добраахвотнікаў 8 чал., добра наладжана грамадзкае харчаваньне (8 сьвінаадкормачнікаў, арганізавана мяса-малочная фэрма і г. д.). Прэміюецца курортам.

19. КРУК—старшыня рабачкому саўгасу „Веснава", член КП(б)Б, вытворчы стаж 7 год. Прэміюецца за добрую пастаноўку грамадзкага харчаваньня і прафработы курортам.

ЖУК (саўгас „Халопенічы")—старшыня вытворчай нарады, сьвінар-ударнік, унёс 2 прапановы, адна прынята, удзельнічае ў тэхгуртку, прэміюецца граматай.

Галоўлітбел № 240. тыраж 500 экз.—зак. 264. Друкарня КУБ'а